# Рабочы Бабруйска

№ 18 (59) 24 – 30 мая 2001г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213807, Бабруйск, а/с 25. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.


НАШЫ ПРАВЫ

## 15 імгненняў вясны:
### хроніка 15-дзённага галадання

З 2-га траўня доўжылася галадоўка старшыні Незалежнага прафсаюза (НП) працаўнікоў РУП БШК "Белшына" Алены Захожай. На такія крайнія захады барацьбы яна вымушана была пайсці дзеля таго, каб вымусіць адміністрацыю прадпрыемства выдаць даведку аб наяўнасці юрыдычнага адраса прафсаюзнай арганізацыі, якая існуе ўжо 8 гадоў. Менавіта з-за адсутнасці даведкі гарвыканкам адмаўляецца ставіць "незалежнікаў" на ўлік. Яшчэ адно патрабаванне прафсаюзнага лідэра – выдаць пазыку на будаванне жылля сябру НП Алейнікаву – адміністрацыя ўжо выканала. Хаця раней адмаўлялася, спасылаючыся на тое, што рабочы не ўваходзіць у афіцыйны прафсаюз.

11 траўня ля цэнтральнай прахадной камбіната каля ста чалавек сабраліся на несанкцыянаваную акцыю з мэтаю падтрымаць галадаючую. У ёй прынялі ўдзел кіраўнік "Рабочай самадапамогі" Сяргей Антончык, віцэ-прэзідэнт Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) Мікалай Зімін, актывісты дэмакратычных прафсаюзаў з розных рэгіёнаў краіны. Мерапрыемства спрабавалі сарваць начальнікі цэхаў, якіх з мэтаю запалохаць даслала адміністрацыя БШК. Яны ўважліва сачылі, каб не было "сваіх" рабочых, а таксама імкнуліся задаць правакацыйныя пытанні выступаючым, як папугаі выкрыкваючы завучаныя фразы: "На якія грошы вы раз'язджаеце?" ды "Хто вас сюды зваў?". Аднак, адчуўшы настрой і рашучасць рабочых, яны абмежаваліся функцыяй пільных наглядальнікаў. Недалёка ад іх знаходзіўся Уладзімір Раманоўскі, намеснік генеральнага па кадрах і сацыяльным развіцці. Калі хтосьці з удзельнікаў акцыі звярнуўся да яго з просьбай выйсці к людзям, гэты "бос" адмахнуўся і з усмешкай на вуснах вымавіў: "Ну і хай галадуе!".

Напрыканцы мерапрыемства з'явілася Алена Захожая. Яна выступіла з кароткай прамовай, у якой падзякавала ўсім, хто яе падтрымлівае.

У гэты ж дзень Алена не змагла трапіць у памяшканне НП. Ля ўваходу "на варце" дзяжурылі супрацоўнікі аховы. Пазней высветлілася, што на дзвярах "хтосьці" замяніў замок. Па факце самавольнага захопу памяшкання Захожая напісала заяву на імя гендырэктара.

Увесь час галадаючая, якая працуе электраманцёрам на заводзе звышгабарытных шын, працягвала хадзіць на працу. Аднойчы да яе "падваліў" цэлы тузін людзей з аддзела тэхнікі бяспекі (пачынаючы з цэхавага ўзроўню і заканчваючы камбінацкім) разам з унушальнай брыгадай у белых халатах (ад урача з заводскага здраўпункта да галоўнага ўрача палілінікі БШК). Каб падтрымаць арганізм жанчыны, яны прапанавалі ёй "зрабіць укольчык". Аднак Алена ад вітамінаў адмовілася, выказаўшы намер працягваць галадоўку да поўнага задавальнення свайго патрабавання. Тады "госці" ўмылі рукі – склалі акт, у якім адмову зафіксавалі.

14 траўня з-за шматдзённай галадоўкі Захожая была не ў стане вярнуцца дамоў і дзве ночы начавала на працоўным месцы. Кіраўніцтва камбіната, між тым, выбрала страусіную тактыку, робячы выгляд, быццам бы нічога не здарылася. Матывіроўка? Заяўка на галадоўку пададзена не ў прызначаны 15-дзённы тэрмін. А камбінацкая газета "Белорусский шинник" за 12 траўня, да прыкладу, аб галадоўцы не абмовілася нават словам.

16 траўня на працоўным месцы Алены Захожай зноў з'явіўся натоўп людзей: прадстаўнік гарвыканкама таварыш В. Гарбанёў, намеснік БНП М. Зімін, дырэктар завода Кратовіч і намеснік У.Раманоўскага па інфармацыі Наталля Васільева. Яны прапанавалі "міравую". У ветлівай, але вуснай форме было абяцана пытанне аб юрыдычным адрасе вырашыць да суботы, 19-га. Алена зрабіла пісьмовую заяву. У ёй яна паведаміла пра спыненне галадоўкі, бо яе патрабаванне выканана. Адразу на транспарце яе даставілі ў хірургічнае аддзяленне бальніцы БШК, дзе пад назіраннем урачэй яна паступова будзе выходзіць з галадоўкі. Свой стан здароўя сама Захожая ацэньвае як задавальняючы. Хаця 49-гадовая жанчына з'яўляецца інвалідам III групы і 15-дзённая галадоўка яе цалкам знясіліла.

Такім чынам, застаецца чакаць, пакуль абяцанне будзе выкананае. А "РБ" будзе ўважліва адсочваць сітуацыю, трымаючы справу пад кантролем.

**Віктар КАЧАН.**

ПРАВОСУДИЕ

## Веревочка вьется

*Статья подготовлена по материалам, предоставленным Бобруйской общественной приемной правозащитного центра "Весна"*

***Уже как пятый месяц прокуратура не может разобраться в деле Богданова А.В. – избиении его сотрудниками милиции.***

Кратко напомним суть истории. 11 декабря 2000 г. Алексей и его отец, возвращающиеся домой после работы, были задержаны сотрудниками милиции и препровождены в ОПОП-1. Инкриминировалось им ст.159 КоАП РБ – появление в общественном месте в пьяном виде, но протокол сотрудники милиции не торопились составлять. По истечении 3-х часов Алексей высказал вполне законное замечание о том, что прошло допустимое время задержания и пора было бы с ними разобраться. С ним и разобрались. Да так, что парень получил телесные повреждения различной степени тяжести (перелом спинки носа, вывих кисти руки и множество кровоподтеков) и в дальнейшем был вынужден обратиться за медицинской помощью. Особенно усердствовал в процессе Коноплич Н.И., нанося удары кулаком в лицо да заламывая руку так, чтобы Алексей оказался лицом на грязном полу. Но и этого милиционерам показалось мало. Они решили еще и поиздеваться. Дав парню умыться, они предложили ему перед ними извиниться. Алексей, конечно, отказался, а в протоколе появились новые статьи КоАП 156 и 166 – мелкое хулиганство и неповиновение законному распоряжению или требованию работника милиции. Отец Алексея был отпущен, а



сам парень в ожидании суда провел ночь в Ленинском РОВД.

Если еще в кинокомедиях наш суд – самый гуманный в мире, то в жизни совсем наоборот. Судья, даже не пытаясь вникнуть в суть дела, ограничилась изучением милицейского протокола да вопросами для заполнения постановления. Единственная "поблажка" – это ее предложение выбора между штрафом в 5 МЗП и сутками ареста (досидка). Так как Алексей находился не в том состоянии, чтобы и дальше оставаться в милиции, то он выбрал штраф. После того как парню была оказана медицинская помощь, он обратился в общественную приемную ПЦ "Весна". Было составлено заявление в прокуратуру Ленинского района на неправомерные действия работников милиции – административное задержание и нанесение телесных повреждений. Данное заявление рассмотрел ст.помощник прокурора Ленинского р-на г.Бобруйска Балабакина Г.М. В ответе ст.помощник прокурора административное задержание считает правомочным, а применение физической силы обосновывает Законом РБ "О милиции". На основании того, что представленные доводы не нашли подтверждения, в возбуждении уголовного дела было отказано.Что касается проведения проверки, то следует отметить ее односторонность.Опрошены только Коноплич Н.И. – лицо заинтересованное, а также Андреев М.И., Нос И.А. – лица, возможно, находящиеся в подчинении или в дружественных отношениях с ним.

Решение Ленинской прокуратуры, обжалованное в Могилевской областной, было отменено. Дело о неправомерных действиях сотрудников милиции отправлено на дальнейшее, более тщательное расследование. В Ленинскую прокуратуру – по факту избиения, а по правомерности административного задержания и наложения взыскания – в Могилевский областной суд ( по ст.159 КоАП РБ) и Могилевское областное УВД (по ст. 156 и 166).

**СТУДЕНТ.**

АНАЛІТЫКА

## Кулуарны Бабруйск

Бабруйская эканамічная эліта згодна блакіраваць у рашаючы час палітычныя рашэнні афіцыйнага Мінска.

Змяненні грамадскай думкі, якія адбыліся за апошнія шэсць месяцаў у наменклатурным асяроддзі Бабруйска, маюць усе шанцы набыць неадваротны характар.

Паляпшэння эканамічнага клімату, без якога буйныя бабруйскія прадпрыемствы праз пару год будуць мала чым адрозніваюцца ад цэнтральнаафрыканскіх волатаў як па зносу абсталявання, так і па якасці прадукцыі, сённяшні рэжым прапанаваць не можа. Замест гэтага, на галовы чыноўнікаў льюцца сотні ўказаў і дэкрэтаў, якія прымушаюць яшчэ больш кантраляваць паралізаваную дзейнасць прадпрыемстваў.

Усё часцей у кулуарных размовах мясцовага дырэктарскага корпусу і асноўных топ-чыноўнікаў гарвыканкама чуваць думкі аб бесперспектыўнасці сённяшняй улады.

Цяжка даказваць сабе ў такіх думках, калі ведаеш, што твой літоўскі ці польскі калега зарабляе зараз у дзесяткі разоў больш і мае станоўчыя паказальнікі развіцця прамысловасці. Прычым гэта легальна і адкрыта, без страху згубіць сваё месца пасля чарговага візіту "бацькі".

А тое, што чыноўнік нават камуністычнай закалкі і такіх жа поглядаў можа рабіць выгадныя для сябе эканамічныя крокі – факт даўно і ўсім вядомы. Прыклад сапраўднай прыналежнасці крамы "Фартуна" не адзіны. Што ўжо казаць аб шматлікіх бартэрных аперацыях са зніклененм у невядомасць вагонаў прадукцыі. Зараз накручваць грошы на рахунак прадпрыемстваў умеюць нават навучэнцы ПТВ.

А пакуль, чакаючы прызначанай сустрэчы, дырэктарскі корпус займаецца рознымі цікавымі заняткамі. Так, кіраўнік аднаго з прадпрыемстваў нашага горада вельмі любіць бавіць свой вольны час за здзекамі над вусатай лялькай, вылепленай з хлеба. І чым больш падатковых праверак у бухгалтэрыі, тым пачварней здзекі.

Іншым вечарам іх (дырэктараў) часцей можна застаць у рэстаране гасцініцы "Юбілейная", чым у хаце ля тэлевізара. Але пасля ад'езду ў Маскву аднаго з самых знакамітых шынікаў горада цікавых людзей трапляецца там усё менш і менш, чаго нельга сказаць, напрыклад, аб "Белай Русі".

Яшчэ больш значныя змены адбываюцца зараз у міліцэйскім корпусе. Беспрычынныя сутыкненні міліцыі з апазіцыяй паступова адыходзяць у мінулае. Актывістам мясцовай апазіцыі ўдалося стварыць вобраз рэальна існуючай сілы з палітычнай базай у значных колах нашага грамадства.

За мінулыя шэсць месяцаў адбылося збліжэнне апазіцыі і мясцовай улады ў пытаннях далейшага развіцця краіны. Дырэктарскі корпус і чынавенства з ахвотай ідуць на кулуарныя кантакты з апазіцыйнымі лідэрамі, часта выступаючы ініцыятарамі гэтых сустрэч. Прычым збліжэнне ідзе ў зусім не выгадным афіцыйнаму Мінску накірунку.

Барацьба за галасы бабруйскіх выбаршчыкаў распачалася не толькі на БТ. Грамадскі рух "ЗУБР" за пару месяцаў зрабіў шмат спланаваных, добра падрыхтаваных акцый: шматлікія пікеты і перфомансы, раздача газет, правядзенне масавых акцый і іншае. Гэта добры вынік працы для новай арганізацыі.

Усіх нас чакае гарачая восень.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

НАШ КІРМАШ

## Дапамажыце моладзі вызначыцца!

Напэўна, такі заклік пачуў ад кагосьці з маладзёнаў горада хтосьці з Бабруйскага рэгіянальнага цэнтра занятасці. І вырашыў падбухторыць усю ўстанову на арганізацыю кірмашу навучальных і працоўных месцаў, што прайшоў 15 траўня каля гарадскога Дома афіцэраў.

На гэтым кірмашы працавалі прыёмныя камісіі вучэльняў, тэхнікумаў, каледжаў і ВНУ горада, што паведамлялі пра правілы прыёму ў навучальныя ўстановы, прадстаўлялі вынікі працы сваіх навучэнцаў. Таксама на гэтым мерапрыемстве можна было даведацца пра стан рынку працы ў рэспубліцы, атрымаць адказы на пытанні. На сцэне, пабудаванай побач з Домам афіцэраў, спявалі і танчылі навучэнцы вучэльняў, тэхнікумаў. Узровень арганізацыі мерапрыемства быў даволі задавальняючы для Бабруйска, таму можна пажадаць арганізатарам не губляць маркі.

**Алёна АНДРЭЕВА.**



Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 25.

ФУТБОЛ

## На двух франтах

10 траўня бабруйская "Белшына" ў рамках 1/2 фінала Кубка краіны прымала рэчыцкі "Ведрыч". Упартая барацьба скончылася нічыёй. Хаця шанцы вызначыцца былі ў абедзвюх каманд. Гульня ў адказ адбылася 18 траўня на полі суперніка – 1:1. "Белшына" – фіналіст!

14 траўня ў пятым туры чэмпіянату краіны "Белшына" гуляла ў гасцях са сталічным "Тарпеда-МАЗ". З мінімальнай перавагай 1:0 перамаглі нашы землякі. Гол на рахунку Дзмітрыя Балашова. Бабруйчане, не страціўшы ніводнага ачка, па-ранейшаму працягваюць займаць першы радок у табліцы.

**Віктар КАЧАН.**



«Белшына» – «Ведрыч». Паўфінал.

ПОСЛЕ ФУТБОЛА

## За "Белшину" болеть не хочется

В дни футбольных соревнований всё население города делится на два не понимающих друг друга лагеря. Одни чуть ли не с двух часов дня выстраиваются в огромную очередь возле билетной кассы. А другие заглядывают поверх толпы в надежде, что здесь продают жирные "забугорные" куриные тушки. Действительно! За чем ещё может стоять такая толпа, как не за чем-нибудь дешёвым, вкусным и даже, может быть, полезным. И тем больше их недоумение и негодование, когда они узнают, что эта огромная очередь за маленькими бумажками, которые позволяют пройти на стадион и посмотреть, как взрослые дяди пинают по полю несчастный мячик. Они пожимают плечами и уходят "по своим делам", унося в душе твёрдую уверенность, что футбол – это "спорт для дураков". А любители этого дурацкого вида спорта, несмотря на оттоптанные ноги, продолжают пробиваться сквозь толпу за заветными билетиками.

Как известно, самыми рьяными болельщиками "Белшины" являются skinhead's. В повседневной жизни они даже делятся на два разных клуба, но на трибуне под крики "Белшина - чемпион" они объединяются в одну толпу лысых "болеющих" подростков.

Такой же толпой они собирались на стадионе, когда любимая "Белшина" играла с речицким "Ведричем-97". Как назло, наша команда в этот день была не в ударе. Впрочем, речицкая тоже. Ни те, ни другие даже не размочили счёт. Естественно, это обмануло надежды всех белшиновских болельщиков и вовсе не способствовало поднятию их настроения. Скины, как и все, были не в духе. В их расстроенных душах накопилось столько отрицательной энергии, что им было просто необходимо выпустить пар. Но как и на ком сорвать зло – вот в чём вопрос.

В поисках жертвы бритоголовая компания вышла за пределы стадиона, дыша на прохожих легким перегаром, стала приглядываться к потенциальным "козлам отпущения". Ими оказались ничего не подозревающие ребята, раздающие чуть расстроенным болельщикам независимую прессу. Skins окружили ребят плотным кольцом из трех десятков лысых голов и стали защищать Лукашенко с таким рвением, с каким только что болели за "Белшину". Благо, что рядом оказалась полная машина защитников правопорядка, которые быстренько разогнали разбушевавшихся болельщиков. Вот сейчас бы и написать благодарность нашей милиции. Но не получается. Поскольку история имела продолжение, и весьма печальное.

Не успели неудачливые демократы обменяться мыслями по поводу произошедшего и завернуть за угол, как на горизонте снова показалась компания бритоголовых. Казалось бы, самое время развернуться и уйти. Но юные демократы были не робкого десятка. А еще уверенности шестерым ребятам придавали двое молодых милиционеров, стоявших в нескольких шагах от толпы skin'ов.

Стычка между свободной молодежью и разгневанными болельщиками закончилась одним сломанным носом, двумя сорванными значками, растоптанным самолюбием и полным равнодушием ко всему происходящему со стороны милиционеров.

Вот теперь и хочется сказать спасибо нашим доблестным защитникам правопорядка. От которых ребята не только не дождались помощи, но и чуть не пострадали за распространение газеты. Служители Фемиды попытались задержать самого старшего из парней. К счастью, не удалось. Газета зарегистрирована, да и за бездействие во время исполнения служебных обязанностей можно "сесть" года на три. Милиционеры это понимали, поэтому и не усердствовали при задержании.

Да! День у ребят выдался не из приятных. Во-первых: лишний раз поговорили с родной милицией. Во-вторых: после встречи с такими чудесными поклонниками футбола за "Белшину" болеть не хочется.

**А.К.**

РАБОТА

## "Кидалово" по-северному

***Говорят, рыба ищет, где глубже, а человек – где лучше. А человеку лучше там, где больше платят. Многие бобруйчане подались на заработки в Польшу, Чехию, Германию, для кого-то возможность поправить материальное положение нашлась в России. Мой хороший знакомый прошел все стадии поиска работы, проработал два с половиной месяца в Заполярье на нефтепроводе. Приобретенный опыт заставил выработать несколько правил:***

***- прежде чем ехать, нужно все просчитать,***

***- работая через посредника, просчитать все невозможно.***

***Вашему вниманию предлагаю рассказ Сергея П.***

Первая моя попытка найти работу была случайной. Увидел по могилевскому ТВ рекламу фирмы-посредника, и решили с товарищем поехать, узнать, что да как. Фирма набирала рабочих для итальянского работодателя на стройки Эфиопии, Алжира. К профессионализму предъявлялись очень высокие требования. Из ста претендентов выбрали только двух. Отбор происходил следующим образом. Претендентов собирали в Минске, причем дорога до Минска и обратно оплачивалась. И уже в Минске, под наблюдением представителей итальянской фирмы, нужно было продемонстрировать свое мастерство. К примеру, мне как сварщику нужно было сварить образцы. Я почувствовал, что не потяну, и на заключительный этап отбора не поехал. А два моих друга рискнули – и улетели работать в Казахстан, где за месяц зарабатывают 350$ чистыми, после оплаты за питание и проживание. При этом работают шесть дней в неделю, рабочий день длится 11-12 часов. Я же поехал в заработки в октябре от могилевской фирмы.

Увидел объявление в бегущей строке, позвонил и попал на работу в город Губкинский. Это Ямало-Ненецкий автономный округ, около трехсот км от Заполярья, где с середины сентября до середины мая лежит снег и можно увидеть северное сияние. Работал сварщиком на губкинском предприятии "Газпромстроймонтаж", которое было подрядчиком "Роснефти". Условия были приличные. На еду уходило 60-70 $. Расходы на питание оплачивались принимающей стороной. За два месяца работы мне обещали 300 долларов чистыми, а получил я 150 «баксов» плюс оплату проезда.

Принимающая фирма оказалась «левой». Приглашая людей на работу, губкинский "Газстроймонтаж" сознательно шел на обман, поскольку денег на ту оплату, которую обещал, не имел. Могилевская фирма, которая отправляла нас на заработки, после нашей пробной поездки отказалась от сотрудничества с этими ребятами. Недавно я увидел в Бобруйске подобное объявление и ради интереса позвонил. Оказалось, на ту же фирму, на тот же объект, но через другого посредника снова приглашаются люди. Если они все же решатся ехать, в момент расчета их ждет неприятный сюрприз.

**О способах зарабатывания денег расспрашивала Надежда КОКОШ.**

ПО НУЖДЕ

## Клозет – CLOSED



Наверняка каждый из нас всегда в чем-то нуждается. Бывает, что людям срочно нужны деньги, нужно свободное время, нужно питание. Но иногда появляются вещи, которые не терпят отлагательств. Это может быть желание попить воды, поесть, сходить в туалет.

Попить воды можно в кафетерии, перекусить в закусочной. А что делать человеку, который захочет в туалет? Конечно же, сходить туда. Но не все так просто, как кажется. Действующих общественных "мест для раздумий" столько, что можно без всякого труда перечислить их по пальцам. Эти достопримечательности нашего города находятся на станциях "Березина" и "Бобруйск", площадях им. Ленина и Победы, в городском парке. И это на город с населением в 250 тысяч человек! Для примера, в том же пресловутом Шклове с населением 15 тысяч человек их три. Следует отметить, что места общего пользования совершенно отсутствуют в районах города поздней застройки – на Даманском, в 5 и 6 микрорайонах. Так что же получается? Если человеку "припрет", то пусть он бегает в поисках туалета или использует ближайшую подворотню?

Многие жители нашего города приспособились к такому нелегкому положению. И в критической ситуации используют туалеты ближайших столовых, ресторанов и других общественных мест со свободным входом. Особенной популярностью за свою чистоту и уют отличаются туалеты горисполкома и райисполкомов. Тем бобруйчанам, кому такие места еще неизвестны, советуем их "исследовать", а не загрязнять наш город и нарываться на административные штрафы.

А для гостей города местная администрация, если не собирается строить новые туалеты, пусть выпустит специальную карту или на табличках госучереждений, кроме основной надписи, начнет указывать наличие туалета.

**СТЕПАША.**

## Туалет за 20 000 долараў!

У санвузел на новым рынку ў Асіповічах ужо ўкладзена 7 тысяч даляраў. Па словах мясцовага кіраўніцтва будынак 4 на 6 метраў патрабуе яшчэ 10 тысяч для дапрацоўкі. І гэта мінімум.

У мінулым годзе на паседжанні гарвыканкама горада Асіповічы было прынята рашэнне аб будоўлі новага рынку. Грошы часткова вырашылі браць з прадпрымальнікаў, часткова з бюджэту.

Пачалося ўжо размеркаванне новых месцаў для гандлю, але пры гэтым зямля, на якой вядзецца будоўля, афіцыйна рынку так і не перададзена. Акрамя таго, няма таксама асобнага рахунку. Адсутнічае элементарная бухгалтэрыя, нельга прасачыць фінансаванне і расходы на праведзеную працу.

На паседжанні выканкама, якое адбылося ў красавіку, усе гэтыя факты былі названы дробязямі і нязначнымі памылкамі.

А пакуль на тэрыторыі новага рынку будуецца туалет. Укладзена ў гэты цуд архітэктурнай думкі ўжо больш за сем тысяч даляраў. Па словах будаўнікоў, да заканчэння працы патрэбна яшчэ дзесяць-дванаццаць мільёнаў рублёў як мінімум.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**




СВЯТА?

## У гэтым годзе не даю! Інтэрв'ю...

Напярэдадні Міжнароднага дня музеяў выправілася я ў наш гарадскі краязнаўчы музей, каб даведацца тое-сёе пра жыццё адзінай маштабнай установы такога кшталту ў нашым горадзе. Але, як кажуць, дудкі! З першага разу прарваціца да дырэктаркі мне не давялося – яна была занятая на тэатралізаванай імпрэзе, прысвечанай стагоддзю з дня заснавання ў горадзе бібліятэкі імя Пушкіна, арганізаванай супрацоўнікамі клуба "Шукацель" і навучэнцамі СШ № 31. Наступным днём, пасля доўгага чакання, я ўсё ж сустрэлася з дырэктаркай, Наталляй Уладзіміраўнай, але ненадоўга. Бо як толькі я прадставілася ёй, яна мне сказала: "Я ў гэтым годзе нікому інтэрв'ю не даю!". Вось так дзіва, няўжо ж пакуль не дачакаецеся восеньскіх зменаў, вы не будзеце размаўляць з прадстаўнікамі СМІ? А можа, у нашым краязнаўчым музеі, у схованках, ёсць нешта вельмі патаемнае, пра што ў гэтым годзе і распавесці няможна?

У адрозненне ад "шэфа", шэраговыя супрацоўнікі музея няўпэўнена сказалі, што Дзень музеяў лічаць сваім святам, але абсалютна ўпэўнена паведамілі, што святкаваць не будуць. Чаму ж, шаноўныя? Хіба ж вам не хочацца зрабіць сабе свята, адпачыць калектывам? Навошта ж так адмаўляцца ад цудоўнай нагоды?

А ўвогуле, ваша справа – ці то святкаваць, ці то не. Мая справа – нагадаць вам пра ваш прафесійны дзень – і я яе з гонарам выканала.

**Алёна АНДРЭЕВА.**

ТВОРЧЕСТВА

# Віктар Балаханаў: "Мяне зацвердзіў парткам, і я пачаў працаваць"

***Прапануем вашай увазе інтэрв'ю са стваральнікам Народнага хору і яго нязменным кіраўніком Віктарам Яўстаф'евічам БАЛАХАНАВЫМ.***

*– Віктар Яўстаф'евіч, адкуль вы родам? Дзе вучыліся?*

– Нарадзіўся я на станцыі, непадалёк ад Шклова. Калі быць зусім дакладным,то ў лесе, у зямлянцы. Там мая маці хавалася ад немцаў. Вучыўся ў Шклове, у Сталінскай гімназіі, цяпер гэта ратуша. У 5 класе пайшоў у дзіцячы духавы аркестр. Там навучыўся граць на некалькіх інструментах. Справы ў мяне пайшлі так няблага, што ўжо ў 10 класе я сам быў кіраўніком гэтага аркестра. Тады для паступлення трэба было мець 2 гады працоўнага стажу. Давялося папрацаваць на шклоўскай папяровай фабрыцы. Пасля скончыў Гродзенскае музвучылішча.

*– Як далей складвалася Ваша творчае жыццё?*

– Пасля вучылішча я 10 год працаваў у Слаўгарадзе. Стварыў там хор. Наш клуб займаў старую халодную сінагогу. Умовы былі цяжкія. Але ўсё ж хор стаў вядомым. Нас запрасілі выступіць на самой ВДНГ. Гэта быў вялікі гонар.

Пасля гэтага паступіла некалькі прапаноў. Урэшце, я быў запрошаны на БШК кіраўніком клуба. Мяне зацвердзіў парткам – тады так было, і я пачаў працаваць. Зноў стварыў хор. Кіраваў і хорам, і клубам. Неяк спраўляўся. Пачалі будаваць Палац культуры, потым замарозілі. І я ўсе сілы аддаў хору. Так што для мяне можа гэта і ўдача, што я не стаў адміністратарам. Бо на творчасць часу, вядома, не было б.

*– Ці ёсць сярод вашых сваякоў яшчэ музыканты?*

– Не, я адзін такі музычны. Думаю, што гэта ад маці: ой, як яна добра спявала, які голас! Мае старэйшыя дзеці спрабавалі пайсці ў музыку, але кінулі.

*– А вы б хацелі для іх вашага лёсу?*

– Ведаеце, не. Не хацеў бы. Таму што наша праца зараз зусім не запатрабавана дзяржавай. Вось вельмі добра ўшанавалі на юбілей. Але ж гэта пра нас за апошнія 5 год першы раз узгадалі.

Я ніводнага дня не быў у партыі. Адчуваў, што мне там няма чаго рабіць. Нагледзеўся, як там перакраіраліся людскія лёсы. Але іншым разам і бывае, пашкадуем, што няма ўжо той партыі. Бо з боку парткама была ўвага да нашай працы. У той жа час мы ездзілі з канцэртамі ў Польшчу, Германію, Балгарыю. Прапагандавалі беларускую песню ў свеце. А гэта вельмі важна.

*– Мне здаецца, што кіраўнік хору – гэта не столькі прафесія, колькі лад жыцця…*

– Вядома, у гэтым – усё мае жыццё. Грошай вялікіх творчасцю не заробіш.

**Людміла РОДЗІКАВА.**

Я МАЛАДЫ

# А што ж хацелі?

11 траўня ў гарвыканкаме прайшла сустрэча, ініцыяваная галоўным спецыялістам аддзела па справах моладзі Валянцінай Суворавай. На сустрэчу былі запрошаныя прадстаўнікі арганізацыяў, што працуюць з падлеткамі і моладдзю, прычым як дзяржаўных, так і дэмакратычных. Імкненне сустрэцца ў спадарыні Суворавай было выклікана жаданнем супрацоўніцтва ў галіне працаўладкавання моладзі і падлеткаў у час летніх вакацыяў. Ёю ж было паведамлена, што з боку гарвыканкама прымаюцца пэўныя дзеянні па арганізацыі другаснай занятасці і адпачынку адзначанай сацыяльнай групы, такія як плануемае адкрыццё швачнай, цырульнай майстэрняў, майстэрні па вырабе мяккай цацкі пры моладзевым цэнтры "Фенікс", а яшчэ адкрыццё бюро студэнцкіх паслуг.

Таксама горадам набудзена абсталяванне для адкрыцця моладзевай кавярні, дзе будуць праводзіцца тэматычныя, дыскатэчныя вечарыны. Грошы на ўсё гэта бяруцца з гарбюджэту. Але гэта ўсё пакуль што на словах, як будзе на справе – невядома. Не тое лета, каб моладзі займацца вырабам мяккай цацкі ці тое шыццём адзення. Усё ж такі моладзь займае даволі актыўную грамадзянскую пазіцыю, ад яе шмат што залежыць, і таму, мне падаецца, аншлагаў у майстэрнях чакаць не варта.

А што ж тычыцца сустрэчы, то большую палову яе заняла прамова спадарыні Суворавай, а яшчэ пэўны час выслухоўваліся прапановы ад прадстаўнікоў арганізацый "трэцяга сектару". Да чаго прыйшлі? Да таго, што трэба часцей сустракацца і абмяркоўваць такія пытанні, бо за адзін раз вырашыць іх немагчыма.

Падаецца, усё прайшло па звыклым плане. Дык навошта ж было сустракацца? Каб дамовіцца на наступную сустрэчу?

**Алёна АНДРЭЕВА.**

ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ!

# Славяне, не проходите мимо!

24-го мая – День славянской письменности и культуры. И где же, как не в Славянской гимназии, отметить это событие? В нынешнем году гимназия серьёзно подошла к "своему" празднику. 24-го мая, в 18.00, под сводами театра имени Дунина-Марцинкевича будут звучать беларусские стихи, русские басни, болгарские анекдоты, польские гимны, украинские песни. Озорные и печальные. Народные и собственного сочинения. А уж сочинять в гимназии умеют. Малое тому подтверждение – стихотворение ученицы 5"б" класса этого учебного заведения Олеси Агиенко.

*Я родилась на Украине,*
*А в Белоруссии живу.*
*Мне дороги просторы синие*
*И тополя я вижу наяву.*
*Порой скучаю я по родине,*
*Но Беларусь мне тоже дорога,*
*К ней я душою прикипела, вроде бы,*
*Но сердце просит сала и борща.*

Так что, будете проходить мимо – не проходите мимо.

**Д. ДОВГАЛЬ.**


Славянская гимназия

# Пару слов о культуре

Я, ваш покорный слуга, отношусь к поколению NEXT. И, естественно, вращаюсь в обществе себе подобных. Хочу затронуть тему "русского мата", иногда и не очень русского.

Не нужно говорить, какая "лаянка" происходит в общественном транспорте, да и просто на улице. В переполненных троллейбусах "отматерят" так, что хорошее настроение улетучивается моментально. Причем "загибают" иногда не молодые ребята, а шестидесятилетние старушки, да так "загибают", что иной раз удивишься: а откуда такие слова берутся? Затем эти же самые старушки усердно крестятся в церкви и замаливают грехи.

"Велик и могуч русский язык,"- сказал кто-то из классиков. Но некоторые обходятся десятью словами (Эллочка - людоедочка чувствовала бы себя человеком с высшим образованием в компании таких людей!). А эти 10 слов – нецензурные.

… Как-то стоя на остановке, я слышал разговор двух молодых людей: диалог этот состоял из … ой, не буду повторять все то, что они говорили. Если в их разговоре было 2-3 нормальных слова – это хорошо.

Однако, будем зрить в корень: почему за последние 10 лет так упал уровень развития нашей молодежи? Вы, взрослые говорите, что мы сами виноваты: "подзаборные компании, непонятная музыка, спиртное…". Но молодежь вам ответит, что и на вас лежит доля ответственности! С кого нам брать пример? Со старушек (см. выше)? С тех, кто уже едва стоит на ногах в 10 (!) часов утра?

Куда податься молодежи? Кто-то по вечерам сидит дома, кто-то ходит на дискотеки и, как говорит моя мама, ищет на свою ж… приключений. Даже в парке иногда не посидишь спокойно: то там, то здесь пьяные компании. Вы посмотрите: спортивных секций все меньше и меньше. Зато такие ледовые дворцы строим! Вот только кто на них играть будет? Живой пример – сборная Беларуси по хоккею. Играли из рук вон плохо: все спортсмены играют за разные команды, большинство игроков уже не молодые, а смены им нет.

Последний совет: государству нужно работать с молодежью, чтобы потом она работала на благо общества (избитый штамп, но что поделаешь).

Надо жить, а не существовать, чтобы вместе с нами жила и процветала наша родная Беларусь.

**Денис ОТШЕЛЬНИКОВ.**

ВАНДРОЎКА

*Дарожныя нататкі*

# Бабруйчанін у Паланзе

Паланга – адзін з самых прыгожых курортаў на ўсім Балтыйскім узбярэжжы. Штогод сюды прыязджаюць мільёны турыстаў з усіх краін свету, каб яшчэ раз убачыць блакітную прыгажосць набягаючай хвалі цёплага мора. На тоненькай паласе прыбрэжнага пляжа ў сезон адразу можа сабрацца адразу да двухсот тысяч адпачываючых. І пры ўсім гэтым насельніцтва Палангі складае не больш за трыццаць тысяч чалавек.

На жаль, наш візіт у Палангу прыходзіўся не на пік сезону, таму нешматлікія групы турыстаў адразу праглыналіся паўсонным рытмам жыцця вясенняга курорта.

На вуліцах было чыста: ні смецця, ні мінакоў. Парою здавалася, што жывога субяседніка сярод пачынаючых квітнець садоў знайсці значна цяжэй, чым цвярозага мужыка, ідучы ўвечары па Чарапічным ці Фарштадце.

Часы блукання па горадзе цалкам пайшлі на вывучэнне архітэктурных вышукаў літоўскага суседа. Амаль што ўсе будынкі ў Паланзе зробленыя ў нямецкім стылі. Тыя ж чырвоныя чарапічныя дахі, геаметрычна роўныя, пафарбаваныя ў светлыя прыгожыя таны сцены і абавязкова жывы расліны плот вакол усяго дома. Тут паўсюль адчуваецца больш чым паўтысячагодні ўплыў Прусіі.

Асноўная дарога Палангі – вуліца Вітаўта – ідзе на адлегласці трохсот-чатырохсот метраў ад берага. Менавіта тут знаходзяцца асноўныя супермаркеты і адміністратыўныя будынкі, крамы і офісы. Тут жа можна ўбачыць самае прыгожае месца горада. Ім у Паланзе лічыцца велізарны, вельмі прыгожы цяністы парк.

Закладзены многа год таму вядомым мясцовым шляхцічам, ён і да гэтай пары зачароўвае сваёй утульнасцю і непаўторнасцю. Маленькія пруды і рачулкі з перакінутымі праз іх лялечнымі мастамі.


Вуліца ў Паланзе. Фота аўтара.

Адзінокія экзатычныя дрэвы і прыгожыя кветнікі, сасновыя бары з бягучымі па нізе ледзь бачнымі сцяжынкамі – у гэтай казачнай прыгажосці можна праблукаць увесь дзень, не заўважаючы хуткага руху часу.

Але асноўнае жыццё курорта разгараецца не тут. На маленькай па нашых памерах вуліцы Басалявічуса (для параўнання – як ад Дома сувязі да каня) знаходзіцца больш бараў і рэстаранаў, чым ва ўсім Бабруйску. Іх столькі – маленькіх, вялікіх, танных, дарагіх, пабудаваных без аніякага густу альбо ўражваючых сваёй стылістыкай – што калі стары заўзятар кубінскіх цыгар Хэмінгуэй, спыняючыся ў кожнай кропцы, вырашыў бы дайсці па гэтай вуліцы да мора, хадзіць бы яму тут дзён дзесяць.

Шчыра кажучы, нам далёка да старога мэтра ў яго вышуках, але непрыемныя раніцы здараюцца ў кожнага. І калі вы апынецеся заваленыя высокім дашчатым фарштадскім плотам альбо заблытаецеся ў шматпавярховых трушчобах-новабудоўлях, вяртаючыся ў гадзіны тры ночы з дзіцячага раншніка, то адзінымі лекамі, якія вам прапануюць у Бабруйску будзе стары, з адпаведным водарам цукровы самагон, зроблены па рэцэптах цёці Сімы з суседняй кватэры.

Літоўцы ж навучыліся паважаць ранішні настрой турыстаў сваім традыцыйным напоем "Мёдус". Дабраякасны прадукт са смакам мёду нават сваёй малай колькасцю рабіў наступаючы дзень зусім не шэрым, а прыемным ва ўсіх адносінах.

А яшчэ літоўцы вельмі паважаюць піва. Прычым часцей за ўсё яны ўжываюць светлыя гатункі з невялікім працэнтам алкаголю. Кожны невялікі горад, кожнае мястэчка мае свой завод са сваім самым смачным, канешне, півам. Зараз літоўскіх піваавараў прызналі ў Еўропе. Так, светлы гатунак "Экстра" клайпедскага завода атрымаў другую прэмію за якасць на прэстыжным фестывалі ў Баварыі. Каштуе гэты цуд дзесьці два літы (паўтары даляры) за бутэльку. У барах свежае піва ідзе ўжо даражэй, ад двух з паловай да трох літаў за куфель (4 літы – 1 даляр), а ў крамах можна знайсці больш як трыццаць розных гатункаў хмяльнога напітку. Але час ідзе, сродкі таюць. Усё грамчэй кліча Радзіма.І вось аўтобус з Вільні ў Менск праязджае Каменны Лог пад гукі "Паланэза" Агінскага ў добрым выкананні Веранікі Кругловай. Прывітанне, Беларусь!

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

ПАДЗЕЯ

# Прэм'ера? Прэм'ера! Прэм'ера…

12 траўня ў гарадскім тэатры імя Дуніна-Марцінкевіча адбылася прэзентацыя на суд гледача пастаноўкі п'есы Ібсэна "Прывіды". У спектаклі задзейсненыя прадстаўнікі сталага пакалення тэатра – Юзэфа Саевіч, Л.Кучко, В. Бабініч, і прадстаўнікі маладога пакалення – Вольга Мурашка, Павал Мікулік. Другапланавыя ролі выконвае таксама моладзь і нават дзеці. "Прывіды" – творчая праца галоўнага рэжысёра тэатра Валерыя Ласоўскага, які, шчыра кажучы, недапрацаваў пастаноўку. У спектаклі няма нейкіх заваражваючых момантаў, усё дзеянне бачыцца як звычайны кавалак з жыцця шатландскага грамадства, хаця ідэя спектакля вельмі і вельмі цікавая. Таксама агульны малюнак імпрэзы сапсавала тэхнічнае абсталяванне: сцэну асвятляла замест патрэбных 36 ліхтароў 8 ! (па словах супрацоўнікаў тэатра). У такіх умовах можа працаваць, напэўна, толькі беларускі актор. Але, нягледзячы ні на што, сама ўрачыстасць прэм'ернай імпрэзы прымусіла гледачоў, не прызвычаных да такога кшталту падарункаў, пакінуць памяшканне тэатра ў добрым настроі.

**Алёна АНДРЭЕВА.**

*Нагадваем, што вы можаце надрукаваць у нашай газеце свае прыватныя абвесткі. БЯСПЛАТНА!*

НАШ КАЛЯНДАР

## 22 траўня – святы Мікола

Свята Мікола штогод прыпадае на 22 траўня. Свяціцель Мікалай Цудатворец вельмі шануемы ў праваслаўных беларусаў святы. Шмат дзе ў хатах можна ўбачыць у куце абразы з яго лікам. У многіх беларускіх вёсках гэты дзень святкуецца як прастольнае свята.

У праваслаўнай літаратуры імя Мікалая Цудатворца падаецца як вялікага Божага ўгодніка, які прысвяціў сваё жыццё прапагандзе і распаўсюджванню хрысціянства ў Лікіі (на паўднёвым узбярэжжы Малаазійскага паўвострава) і барацьбе з паганствам. Штогод 19 снежня царква адзначае нараджэнне свайго вялікага паплечніка, а 22 траўня – перанос яго мошчаў з кафедральнай царквы мястэчка Міры ў італьянскі горад Бар, дзе яны захоўваюцца і цяпер.

Імя свяціцеля Мікалая ўвекавечана ў назвах сабораў, манастыроў, цэркваў. У народзе шматлікім абразам з яго лікам надаецца цудадзейная сіла вылечваць безнадзейна хворых, дапамагаць людзям у бядзе. Згодна з хрысціянскім паданнямі, Святы Мікалай выратаваў у канцы XIV стагоддзя ад нашэсця татар. У гонар гэтай падзеі прысвечаны абраз Свяціцеля Мікалая Мажайскага, копіі якога знаходзяцца ў шэрагу праваслаўных храмаў.

Зранку запрашалі ў хату святара, які праводзіў малебен і чытаў "акафіст Святому Мікалаю", а потым святар, члены сям'і і сваякі садзіліся абедаць. Крыху пазней за гэты стол запрашалі жабракоў, бедных і адзінокіх людзей, калек і таксама шчодра частавалі іх.

МАЛІТВА

## "Бацька наш..."



Мала хто памятае, што 30 ліпеня 1994 года, калі вядомы зараз усім народны прэзідэнт перамог на сапраўдных выбарах, ён кляўся пад бел-чырвона-белым сцягам аб вернасці Беларусі і казаў пра яе далейшы росквіт і развіццё дэмакратыі. Але замест шматпартыйнасці і падзелу ўлады мы зараз маем аднаго, вялікага і непаўторнага таварыша прэзідэнта РБ А.Р.Лукашэнку і працягваем будаваць светлае мінулае.

Яму верачь, на яго спадзяюцца. "Ён – Бог, і на яго трэба маліцца," – так вам скажа сярэднестатыстычны пенсіянер. Адну з малітваў можна будзе нават унесці ў новую "Канстытуцыю" прэзідэнта Лукашэнкі, калі яго перавыбяруць у 2001 годзе (а гэта абавязкова адбудзецца, калі моладзь махне рукой і ў выходны дзень паедзе адпачываць на прыроду). Ну, напрыклад, вось такі варыянт:

*Бацька наш, які пануе ў Белым доме і на Беларусі,*
*Да свяціцца імя тваё,*
*Да будзе на ўсё воля твая,*
*Да прыйдзе да нас царствіе тваё вечнае,*
*Як у сталіцы, так і ў любой вёсцы.*
*Дай хлеб нам наш надзённы*
*У выглядзе пенсій, стыпендый і зарплаты,*
*І дазволь нам хадзіць на працу*
*І грошы мізэрныя за гэта атрымліваць,*
*Бо пахаць на сабе ўжо вялікае шчасце.*
*О, уладар наш!*
*Выбачай нам усе грахі нашыя, якіх не ведаем,*
*Але ў якіх падазраемся.*
*Не ўвядзі нас у спакусу багацця вялікага*
*І пазбаў нас ад злога, ад апазіцыі лукавай*
*І дэмакратыі нікчэмнай.*
*Хай на тое будзе воля твая і подпіс*
*у дзяржаўным дакуменце на векі.*
*Амэн.*

Мабыць, можна абысціся наогул без усялякіх малітваў, бо на тое ваш выбар, вашы выбары – 2001.

**ЛІЗАВЕТА.**

***P.S. Прапанова правесці конкурс на лепшы верш, жарт або показку пра першага прэзідэнта Беларусі ды ягоную палітыку.***

УЛЫБНЕМСЯ

## Из жизни студентов

История эта произошла на родном физическом факультете БГУ. Некоторые из вас, возможно, не знают, как он выглядит снаружи, и, тем более, изнутри. Главное, поймите, что у нас есть три большие аудитории, которые расположены бок о бок. Они соединены общим коридором, где хранят всякий хлам, вроде пособий и т. д. Из каждой аудитории в этот коридор ведут два входа: справа и слева от доски (значит, за спиной лектора). Однажды некий весьма известный у нас профессор самозабвенно читал лекцию, но вдруг у него кончился мел. Он отреагировал вполне нормально: попросил первого попавшегося студента с первой парты сходить в соседнюю аудиторию за мелом. Дальше и началась эта история, в ходе которой и профессор, и студент проявили себя необычайными «тормозами», хотя, может, у них просто со зрением что-то не так (или с головой). Студент вышел из левой двери, повернул направо, и вошел в правую дверь той же аудитории, думая, что он уже дошел до соседней. Публика уже тогда начала веселиться. Студент ничего не заметил и спросил профессора, не может ли он дать для соседней аудитории мела. Профессор спокойно ответил, что у них самих мел кончился. Молодой человек вернулся тем же маршрутом, зашел обратно через левую дверь и сказал, что у них там тоже нет мела. Все, кроме этого студента и профессора, уже просто лежали. Профессор спокойно ответил, что он это знает, так как оттуда тоже приходили и просили мела.

## Бесплатные частные объявления



Общественная инициатива "Независимый взгляд" в Бобруйске предлагает всем, кому не безразлично будущее Беларуси, участвовать в создании объективного наблюдения за подготовкой и ходом выборов.

*Тел. для справок: 7-75-60 (Игорь).*

### Падзякі, віншаванні, абвесткі

Прадаю аўтамабіль "Масквіч-412" па запчастках (1985 год выпуску).
*Тэл. 2-04-52*

Дзмітрыя Доўгаля віншуем з 24-ым Днём нараджэння.
**Група ЭСТОНЦАЎ.**

Шаноўны Зьміцер! Што ж не сказаў, што ты ў 24 раз нарадзіўся, мы б падарыначкі, віншавалачкі арганізавалі. А так толькі чытай: З ДНЁМ НАРОДЗІНАЎ, мілы, прыкольны чалавек. Усяго табе. Заставайся сабой, і людзі ад цябе ніколі не "адвянуць". Сонейка, света, паветра, дабра і кахання!
**Маленькая ВАР'ЯТКА.**

Прадаецца бензапіла "Дружба-4", бетонамяшалка электрычная 0,25 м³, электрычны рухавік 7 кВт 3000 абаротаў. Усё б/в, у добрым стане. 58 33 10.

Віншую ўсіх навучэнцаў школ з апошнім званком. Радуйцеся, людзі, тры месяца волі!!! Але ж і не забывайцеся на Беларусь, яна на нас спадзяецца гэтым годам. Калі ёсць ідэйкі, лістуйце:
alonka2002@yahoo.com. **АЛЁНА**

Продам стереомагнитофон катушечный "Орбита-107С" - сквозной канал, 3 двигателя, вых; мощность 15 Вт на канал, без колонок. Стереопроигрыватель "Вега-101" с колонками, вых. Мощность 10 Вт на канал, всё б/у.
*Тел. 4-93-90 после 17:00.*

Калектыў "РБ" і грамадства РБ віншуе цудоўнага чалавека, свайго калегу і сужыхара Зьміцера Доўгаля з народзінамі. Зычым творчых поспехаў, кахання і свабоды. Усяго!

Шаноўнага спадара Алеся Чыгіра з Днём народзінаў віншуюць калегі-блізняты!

Приму в подарок компьютер, можно с доплатой.
*Тел. 7-51-26.*

Продаю рёбра Адама, яблоки Евы и слёзы Христа. Дорого.
*213819, а/я 46.* **АНЕ.**

Алесь! Добра, што ў свеце параджаюцца добрыя людзі. А яшчэ добра, калі ў добрых людзей нараджаюцца свае добрыя людзікі. Гэтага і зычым.
**Калектыў "РБ"**

Сп. Алесю, з днямі народзінаў і памежнікаў! Жадаем і надалей пасвіць зуброў у межах нашай Белавежскай пушчы.

Шаноўную Людмілу Іванаўну Родзікаву шчыра віншуем з надыходзячым Днём народзінаў і зычым плённа працаваць на ўсіх франтах.
**КАЛЕГІ.**

Хочу познакомиться с приятной девушкой от 16 до 16,5 лет. О себе: пью, курю, без вредных привычек, по знаку зодиака Лев, по году рождения – Козёл. Многое могу, но уже поздно.
*Адрес: на деревню дедушке.*

Спадару Зьміцеру Доўгалю выказваю ўдзячнасць за плённае супрацоўніцтва. З Днём народзінаў!
**Яўген ХАРКІН.**

Бараніце мову продкаў! Уступайце ў ТБМ! Тэлефон у Бабруйску: 7-61-68



ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР

**"ВЯСНА"**

ПРАЦЯГВАЕ СВАЮ СПРАВУ

па іншай адрэсе: вул. Мінская 63 кв. 16 (за «пожаркой»). Прыём кожны аўторак і кожную пятніцу з 11.00 да 17.00. Юрыдычная, маральная падтрымка! Тэлефон для даведдак: 7-37-68.

***Калі ласка, тэлефануйце***

**ОКАЗЫВАЕМ БЕСПЛАТНУЮ ЮРИДИЧЕСКУЮ И МОРАЛЬНУЮ ПОМОЩЬ ГРАЖДАНАМ, ПРОФСОЮЗАМ, ОБЩЕСТВЕННЫМ И ИНЫМ ОРГАНИЗАЦИЯМ.**

Бобруйский региональный информационно-правовой центр

тел: 55-81-78

Бобруйская объединенная организация общественного объединения "РЕСПУБЛИКАНСКОЙ АССОЦИАЦИИ ИНВАЛИДОВ-КОЛЯСОЧНИКОВ" ***оказывает юридическую, психологическую, моральную и материальную помощь*** людям, прикованным к постели. Организации и юридических лиц просим принять участие в оказании помощи людям, передвигающимся на колясках, прикованным к постели.

*Контактные телефоны: 7-91-49; 2-09-50; 2-82-36.*



## Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________

Текст объявления: ____________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 25.**